ГРОДНА
№7 (559),
4 красавіка 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Пальмовая нядзеля ў Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы




*“У гэты дзень я адчуў, што мы адна вялікая сям'я Божых дзяцей”, – місіянер пра перажыванне Пальмовай нядзелі.*

*на старонцы* 4

## “Ад сэрца да сэрца” – валанцёр аб працы з дзецьмі



*Душа – гэта пасудзіна. Чым яна напоўнена, тое з яе і льецца.*

*на старонцы* 4

## Хрыстос уваскрос, а святар адслужыў, або Духавенства таксама святкуе



*Духоўныя асобы часцей за ўсё святкуюць Вялікдзень разам з тымі, хто служыць побач, а пасля едуць да родных.*

*на старонцы* 6

# 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ: ШТУРШОК, КАБ СЯГАЦЬ ЯШЧЭ ДАЛЕЙ

**Пасля стварэння Гродзенскай дыяцэзіі было складана акрэсліць, колькі католікаў жыве на Гродзеншчыне. Часцей за ўсё падавалася заніжаная статыстыка, што было абумоўлена шматгадовым праследаваннем мясцовага Каталіцкага Касцёла. Запалохванне і рэпрэсіі прывялі да таго, што людзі баяліся публічна прызнаваць сваю хрысціянскую веру, захоўваючы яе ў сэрцы і практыкуючы таемна.**

**Паводле апошніх афіцыйных даных, колькасць парафіян у нашай дыяцэзіі пасля 30-ці гадоў складае 400 тысяч чалавек.**




**З моманту ўзнікнення Гродзенскай дыяцэзіі пачалася актыўная праца па стварэнні новых парафій і будаўніцтве касцёлаў і капліц. І ўжо ў 1992 годзе Гродзеншчына ўзбагацілася новымі святынямі. А праз 30 гадоў у дыяцэзіі налічваецца 34 новыя касцёлы і 18 новых капліц. Усе яны пабудаваны з нуля, за выключэннем некалькіх, напрыклад, у Ізабеліне, Ражанцы і Карэлічах, якія былі адноўлены з руін.**

**Гродзенскія дэканаты:**
**Новыя касцёлы:** *у Гродне ў мікрараёнах Паўднёвы, Дзевятоўка і Вішнявец, у Азёрах, Скідзелі, Путрышках і Жытомлі.*
**Касцёлы ў працэсе будаўніцтва:** *у Гродне ў мікрараёнах Фолюш і Альшанка, у Пагаранах, Каробчыцах і Верцялішках.*
**Пад будаўніцтва касцёла атрымана зямля:** *у Гродне ў мікрараёне Баранавічы.*
**Новыя капліцы:** *у Пераломе, Свіслачы, Падліпках і Плябанаўцах.*

**Лідскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Лідзе ў мікрараёнах Індустрыяльны, Гастэла, Слабада і Маладзёжны, у Першамайску, Дзітве, Бердаўцы і Беліцы.*

**Шчучынскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Астрыне.*
**Новыя капліцы:** *у Барташах, Клешняках, Шастакоўцах і Ражанцы.*

**Мастоўскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Мастах, Мастах Правых і Юбілейным.*

**Ваўкавыскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Ваўкавыску Цэнтральным, Падароску і Ізабеліне.*
**Новыя капліцы:** *у Навасёлках, Студзеніках і Субачах.*

**Бераставіцкі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Свіслачы.*
**Новыя капліцы:** *у Кватарах.*

**Дзятлаўскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Падвялікім.*

**Іўеўскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Сурвілішках і Юрацішках.*
**Новыя капліцы:** *у Цэнтральнай і Жамыслаўлі.*

**Навагрудскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Бярозаўцы, Любчы і Карэлічах.*

**Ашмянскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Анжадаве і Граўжышках.*

**Астравецкі дэканат:**
**Новыя капліцы:** *у Лошы.*

**Радунскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Воранаве і Доцішках.*
**Новыя капліцы:** *у Палецкішках.*

**Смаргонскі дэканат:**
**Новыя касцёлы:** *у Крэве.*
**Касцёлы ў працэсе будаўніцтва:** *у Смаргоні ў мікрараёне Карані.*

**Слонімскі дэканат:**
**Новыя капліцы:** *у Старой Весі.*

*на старонцы* 3

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

Кожны чалавек, які прыходзіць у свет, шукае цяпла і любові на працягу ўсяго жыцця. Ён шукае людзей, якія б яго прынялі і палюбілі, у якіх знойдзе прытулак і бяспеку. Мы адкрываемся перад імі, паказваем сваё нутро, запрашаем у яго, бывацам у дом, адкрыты для сяброў.

Як веруючыя людзі, нам таксама патрэбна блізкасць Бога. Можам адчуць яе асабліва падчас свята Уваскрасення Пана, якое перажываем кожны год. Таму што ў гэтыя дні па-асабліваму спазнаём цеплыню Яго добрых, параненых рук. І ўсё для таго, каб мы не сцарсцвелі ўнутры і адносна адзін аднаго. Каб нашы словы не сталі камянямі, якія, кінутыя са злосцю, толькі раняць. Каб у нас не памерлі перакананні, што можна жыць і лепш, і прыгажэй. У рэшце рэшт, мы ўсе марым пра гэта!

У такі асаблівы час ад імя ўсяго рэдакцыйнага калектыву я хацеў бы пажадаць Вам, дарагія Чытачы, адчуць блізкасць уваскрослага Пана. Няхай Ён дакранецца да нашых сэрцаў, пераменіць нас і дасць патрэбную надзею, якая струменіць з пустой магілы.

Пустая магіла ніколі не кажа пустых слоў! Яна запаўняе нашу пустэчу і асвятляе нашу цемру. Яна заспакойвае тугу вечнага трывання і дадае мужнасці. Пустая магіла – гэта брама ў жыццё, дзе будзе гучаць радаснае "Алелюя!".



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**4 красавіка**
*Нядзеля Уваскрасення Пана.*
*Хрысціяне ва ўсім свеце ў гэты дзень адзначаюць самую важную ўрачыстасць літургічнага года – успамін уваскрасення Хрыста. Традыцыйна Велікодная нядзеля пачынаецца з рэзурэкцыі на досвітку – Імшы Уваскрасення Пана.*

**4–11 красавіка**
*Велікодная актава.*
*Дні Велікоднай актавы, як і Нядзеля Уваскрасення, маюць ранг урачыстасці. Васьмідзённы перыяд успрымаецца як адзін дзень, як адна ўрачыстасць. Таму ў Велікодную актаву пятнічны пост не абавязвае.*
*Назва "актава" паходзіць ад лацінскага слова, якое азначае лічбу восем. Што да актавы Вялікадня – гэта восем дзён святкавання Касцёла, якое працягваецца да Пяцідзесятніцы.*

**11 красавіка**
*II Велікодная нядзеля, ці Божай міласэрнасці.*
*II Велікодная нядзеля заканчвае актаву ўрачыстасці Уваскрасення Пана. Яе яшчэ называюць белай нядзеляй – ад звычаю нашэння белых шат у першы тыдзень пасля Вялікадня новаахрышчанымі ў пачатку хрысціянства. Гэтая нядзеля з'яўляецца таксама днём асаблівага ўшанавання Божай міласэрнасці. За малітву Вяночак да Божай міласэрнасці пры звычайных умовах можна атрымаць поўны адпуст.*

**13 красавіка**
*30-ая гадавіна ўзнікнення Гродзенскай дыяцэзіі.*
*Гродзенская дыяцэзія ў межах Мінска-Магілёўскай мітраполіі была заснавана папам Янам Паўлам II 13 красавіка 1991 года. Па практычных прычынах тэрыторыя дыяцэзіі была вызначана межамі вобласці – дзяржаўнай адміністрацыйнай адзінкі. Папская була "Qui Operam" аб яе стварэнні стала вяршыняй намаганняў, распачатых да пачатку II Сусветнай вайны. Тэрыторыя цяперашняй Гродзенскай дыяцэзіі ўваходзіла ў склад былой Віленскай архідыяцэзіі.*
*У гэты ж дзень пробашч парафіі Святога Духа ў Вільні кс. Аляксандр Кашкевіч быў прызначаны біскупам Гродзенскім. Памолімся за нашага біскупа і Божы люд дыяцэзіі.*

# ВЕЛІКОДНЫЯ ВІНШАВАННІ БІСКУПА АЛЯКСАНДРА КАШКЕВІЧА ВЕРНІКАМ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

**Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!**
**Дарагія Вернікі дыяцэзіі!**



Кожны год у Велікодную раніцу мы з вялікай надзеяй чакаем тых слоў, якія абвяшчаюць нам вялікую радасць, што Хрыстос сапраўды ўваскрос.

Хрыстос сярод нас, нягледзячы на тое, што перажываем: радасць ці смутак. Ён заўсёды побач. Таму няхай замест непакою і страху, замест цемры і няўпэўненасці, якія ў апошні час агарнулі наша жыццё, прыйдзе сёння радасная вестка: "Пан уваскрос, Ён з намі".

**Дарагія Браты і Сёстры!**

Так цудоўна склалася, што ўжо праз некалькі дзён мы будзем дзякаваць Пану Богу за 30 гадоў існавання нашай дыяцэзіі. За гэты час адбылося вельмі шмат. З'явіліся новыя парафіі, было адноўлена шмат святынь, а наш мясцовы Касцёл атрымаў мноства маладых святароў. Новыя малітоўныя групы і душпастырствы вядуць актыўную дзейнасць. Усё гэта здзейснілася дзякуючы вялікаму ўнёску свецкіх і духоўных асоб, за што сёння ім шчыра дзякую. Вельмі хацеў бы, каб гэтая гадавіна была для нас усіх нагодай, каб падзякаваць Пану Богу і каб адчуць сябе больш з'яднанымі. Будзем адзін для аднаго сведкамі ўваскрасення.

Сёлетнія віншаванні, якія жадаю выказаць і якія прыносім адзін аднаму, вельмі адрозніваюцца ад віншаванняў мінулых гадоў. Эпідэмія, выкліканая каранавірусам, з'яўляецца вялікай нечаканасцю для свету і кожнага з нас. Таму сёння, як ніколі дагэтуль, нам патрэбна ласка веры, дзякуючы якой знойдзем шляхі да Бога і да чалавека. Патрэбна ўмацаванне надзеяй, якая падтрымае нашы слабыя сілы, і моц любові, каб не паддацца пачуццю страху, стаць больш чулымі на патрэбы іншых і – кажучы мовай св. Францішка – магчы не столькі шукаць суцяшэння, колькі даваць яго; не столькі шукаць разумення, колькі разумець; не столькі шукаць любові, колькі любіць.

У час, калі перажываем радасць Велікодных свят, жадаю Вам, каб уваскрослы Хрыстос адорваў добрым здароўем і сіламі для прыняцця штодзённых выклікаў. Няхай Ён умацуе салідарнасць і сувязі паміж усімі членамі нашай дыяцэзіяльнай сям'і, няхай дасць цярплівасць у цяжкасцях і павялічыць надзею. Няхай Пан аддаліць ад нас хваробы і дасць ласку жыцця велікодным пасланнем, што Любоў усё перамагае.

На час радаснага перажывання свят Уваскрасення Пана і давання сведчання пра ўваскрослага Хрыста запэўніваю Вас у сваёй малітве і ад усяго сэрца блаславаю.

**Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

# 30-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ: ШТУРШОК, КАБ СЯГАЦЬ ЯШЧЭ ДАЛЕЙ

працяг са с. 1

**У чарговую гадавіну заснавання Гродзенскай дыяцэзіі, якая прыпадае на 13 красавіка, узгадваем шлях, які ёй давялося прайсці, каб сцвердзіць: шмат чаго было зроблена, але заўсёды ёсць куды імкнуцца.**

Ангеліна Марцішэўская



Вуліцы Гродна пасля атрымання рэлігійнай свабоды зноў поўняцца шматлікімі вернікамі. Працэсія Божага Цела, 1990-ыя гады



**Кс. канонік Аляксандр Мацкевіч,**
канцлер Гродзенскай курыі, выкладчык Святога Пісання ў Гродзенскай ВДС

*Вельмі складана некалькімі словамі апісаць усе пазітыўныя змены, якія адбыліся за апошнія 30 гадоў з часу стварэння Гродзенскай дыяцэзіі. Таму абмяжуюся некалькімі дасягненнямі, на мой погляд, найбольш важнымі з пункту гледжання "звычайнага католіка".*

*Перш за ўсё, значна павялічылася колькасць святароў. Вернікі старэйшага і сярэдняга пакаленняў памятаюць часы, калі святароў было вельмі мала, большасць з іх былі пажылымі, часта хворымі, стомленымі шматгадовай непасільнай паслугай. Толькі некалькі парафій мелі свайго пробашча. Каб прыняць удзел у св. Імшы ці прыступіць да сакраманту споведзі, заключыць сакраментальны сужэнскі саюз ці ахрысціць дзіця, вернікі павінны былі пераадолець значныя адлегласці да бліжэйшай парафіі, у якой працаваў святар.*

*З моманту, калі ў 1990 годзе была створана Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя, у яе штогод паступала некалькі дзесяткаў кандыдатаў да святарства. Большасць сённяшніх святароў у дыяцэзіі – выпускнікі гродзенскай семінарыі з тых некалькіх вельмі плённых гадоў, калі колькасць пакліканняў была сапраўды ўражлівай. І хаця ў апошнія гады мы маем справу са спадам пакліканняў да святарства, то з пункту гледжання колькасці духавенства сённяшняя сітуацыя ў дыяцэзіі з'яўляецца непараўнальна лепшай, чым 30 гадоў таму.*

*Другое важнае дасягненне, цесна звязанае з папярэднім, – пашырэнне парафіяльнай сеткі. За 30 гадоў існавання дыяцэзія здолела вярнуць сабе большасць святынь, адабраных у вернікаў у пасляваенныя гады. Як правіла, вернутыя сакральныя будынкі былі занядбаны, спустошаныя няправільным выкарыстаннем і патрабавалі вялікага і дарагога рамонту. Дзякуючы актыўнаму ўдзелу святароў і вернікаў, а таксама пры дапамозе дабрачынцаў і ахвярадаўцаў удалося вярнуць гэтым святыням іх годнае аблічча. Цешыць таксама, што за апошнія 30 гадоў у дыяцэзіі былі пабудаваны новыя касцёлы і капліцы.*

*Яшчэ адным годным увагі дасягненнем з'яўляецца развіццё як традыцыйных, так і новых форм душпастырства. Сёння ў Касцёле праводзіцца сістэматычная катэхізацыя дзяцей і моладзі, вядзецца фармацыйная праца з іншымі катэгорыямі вернікаў, ствараюцца розныя малітоўныя групы, валанцёрыят, спецыялізаваныя душпастырствы, развіваецца паломніцкі рух, свецкія вернікі ўсё больш уключаюцца ў жыццё сваіх парафіяльных супольнасцей. Такая актывізацыя вернікаў не толькі сама па сабе з'яўляецца вялікім дабром, але і дазваляе з аптымізмам глядзець у будучыню.*

*За доўгія гады выкладання Божага слова ў духоўнай семінарыі ў Гродне я пераканаўся, што Усемагутны нястомна прамаўляе да чалавека. Так і зараз, у 30-ы юбілей нашай дыяцэзіі, Божае слова актуальнае і цэліць у нашыя сэрцы. Святое Пісанне – цудоўнае сведчанне прысутнасці Пана ў гісторыі Яго народа. Ён кіруе лёсам чалавецтва, нястомна праяўляе свой клопат, любоў і міласэрнасць. У святле біблейскага апавядання мы бачым, што гісторыя мае свой сэнс, бо ў ёй Бог ажыццяўляе свой план збаўлення чалавецтва.*

*У Бібліі святкаванне юбілеяў і іншых свят было цэлебрацыяй вялікіх Божых спраў, здзейсненых у мінулым. Такім чынам, выбраны народ нібыта нанова перажываў досвед папярэдніх пакаленняў, што заахвочвала яго да падзякі Усемагутнаму за нязменную апеку, а таксама спрыяла ўзмацненню веры і даверу, паколькі пацвярджала, што і ў будучыні Бог ніколі не пакіне свой народ.*

*Я думаю, што святкаванне 30-годдзя дыяцэзіі – гэта магчымасць для ўсіх нас падзякаваць Богу за вялікія змены ў жыцці Касцёла, якія адбыліся амаль на нашых вачах у такі адносна кароткі час, а таксама пагля дзець у будучыню з надзеяй, даверам і аптымізмам. "І вось Я з вамі ва ўсе дні, аж да скančэння веку" (Мц 28, 20), – запэўнівае нас уваскрослы Хрыстос.*



**Кс. канонік Раман Катлімоўскі,**
былы выкладчык Гродзенскай ВДС

*Пачынаючы з 1991 года, я служыў у Гродзенскай дыяцэзіі спачатку прэфектам, а пасля віцэрэктарам мясцовай Вышэйшай духоўнай семінарыі. Гэта былі часы цікавага духоўнага прарыву і будаўніцтва Касцёла на падмурку гісторыі сем'яў, якія перажылі вялікую траўму падчас пераследу Касцёла ўладамі СССР. Перад біскупам Аляксандрам Кашкевічам стаяла заданне арганізаваць асновы функцыянавання дыяцэзіі. Ён пачаў з курыяльнага будынка, пасля стварыў дэканальныя структуры, каб праз дэканаў наладзіць лепшы кантакт са святарамі, заняўся грунтоўным аднаўленнем пабернардынскай забудовы, каб падрыхтаваць месца для клерыкаў, шмат стаpанняў прыклаў для развіцця катэхізацыі, запрашаючы ў паўсталы ў Гродне катэхетычны каледж выкладчыкаў з Польшчы і Літвы. Пад яго доглядам адбываўся рамонт святынь і чалавечых сэрцаў, паламаных "чырвонай" сістэмай. Гэта быў цяжкі, але прыгожы пачатак, поўны прыгод. І менавіта супакой і самавалоданне пастыра дыяцэзіі дазвалялі заўсёды пазітыўна вырашаць далікатныя сітуацыі. У прасторы дзейнасці біскупа заўсёды можна было заўважыць праявы Святога Духа. А інакш і быць не магло, бо іерарх нястомна клапаціўся аб дыяцэзіі праз малітвы даручэння.*

*Я дзякую Богу, што меў магчымасць служыць побач з біскупам Аляксандрам – чалавекам вялікай пакоры і прастаты, які паглыбляецца ў Бога і моцна любіць Касцёл. Ён ніколі не прымаў паспешлівых рашэнняў, але заўсёды шмат маліўся. І кожны раз мы бачылі плён гэтай разважлівасці. Іерарх заўсёды вельмі цёпла ставіўся да святароў і клерыкаў, кажучы, што духоўная асоба не ведае старасці, бо яе дух застаецца маладым. Мне падаецца, дыяцэзія мае цяпер шмат святароў "стылю" біскупа Аляксандра – спакойных духам і радасных сэрцам, бязмерна культурных і чуллівых.*

*І хоць у дыяцэзіі, як у кожнай супольнасці, хапае праблем, вобраз яе развіцця ясны і перспектыўны. Зразумела, у наяўнай сітуацыі мы ўсе павінны сканцэнтравацца на крыжы Хрыста і нястомнай малітве, але каб набрацца натхнення і надзеі, дастаткова зірнуць на ўжо пройдзены шлях. Фармацыя маладых людзей, якая існуе ў розных формах, шматлікія малітоўныя рухі (напр. "Маргарытка", "Апостальства дапамогі чыстцовым душам") і душпастырствы (напр. цвярозасці, вязняў, сем'яў) сведчаць аб тым, што Святы Дух вядзе Гродзенскую дыяцэзію на працягу ўсіх 30-ці гадоў. І робіць гэта праз чалавека, які на пачатку доўга адмаўляўся ад гэтай працы, думаючы, што не справіцца. Аднак Бог, як заўсёды, аказаўся вялікім, а пастыр – мудрым і спакойным праваднікам у веры.*



**Тэрэза Змітрэвіч,**
шматгадовая парафіянка гродзенскага касцёла св. Францішка Ксаверыя

*Мая вандроўка па дарозе веры пачалася трагічна. Улетку 1944 года, ва ўзросце сямі гадоў, я ўпершыню прыняла св. Камунію. Пасля ўрачыстасці мінуў тыдзень, і я страціла сваю маці – яе расстралялі немцы, – а разам з ёй на пэўны час згубіла і шлях у святыню. Мама заўсёды суправаджала мяне на св. Імшы. Калі падрасла і змагла запомніць дарогу ў касцёл, пачала хадзіць туды самастойна. Аднак цешылася гэтым нядоўга, бо савецкая ўлада распачала моцны ціск на мясцовы Касцёл, і мы "згубілі" нашага парафіяльнага святара, застаўшыся "сіротамі". Невялікая група вернікаў засталася пры касцёле, каб ахоўваць яго, а большасць разбрылася, хто куды: далучылася да тых некалькіх парафій, дзе ўлады час ад часу яшчэ дазвалялі цэлебраваць св. Імшы.*

*Я пачала хадзіць у пабернардынскі касцёл, дзе служыў кс. Міхал Арановіч. Вядома, што нягледзячы на пераслед, гэты святар меў мужнасць патаемна хрысціць, вянчаць і катэхізаваць. Памятаю, як аднойчы прыйшла ў касцёл, каб паспавядацца. Стала ў чаргу і пачула ад людзей, што кс. Міхал атрымаў ад Святога Айца дазвол удзяляць сакрамант канфірмацыі і сёння ў закрыстыі мае адбыцца патаемнае прынясенне дароў Святога Духа. Я не разгубілася і папрасіла незнаёмую жанчыну, якая стаяла за мной у чарзе, стаць маёй сведкай канфірмацыі. Пасля спазнання Святога Духа я ляцела дадому, нібы на крылах. Вярнуўшыся, адчула ў сабе столькі энергіі, што вырашыла стаць актыўнай да былых парафіян і распачаць дзяжурствы ў гродзенскай катэдры. Нягледзячы на тое, што мела дзяцей і працавала, знаходзіла час, каб прыходзіць у свае змены і ахоўваць касцёл ад магчымых рабаўнікоў. Памятаю, што мы часта збіраліся ў святыні на супольны Ружанец: клалі на стол убранне святара і маліліся. Вельмі шкада тых людзей, з якімі разам баранілі касцёл, але якія не дачакаліся распаду СССР і ўстанаўлення дыяцэзіі.*

*Узгадваю вялікую радасць, што панавала ў нашых сэрцах, калі атрымалі першага біскупа. Наступіў час свабоднай катэхізацыі дзяцей, можна было без страху прымаць сакрамант канфірмацыі з рук іерарха. Асаблівым падарункам стала з'яўленне Тэалагічнага каледжа ў Гродне. Людзі, прагныя да хрысціянскіх ведаў пасля часоў савецкага атэізму, дзесяткамі запісваліся на заняткі. Пачалі "ажываць" касцёлы: туды вярталіся людзі, якія ахвотна аднаўлялі і абдудоўвалі свае святыні. На жаль, вярнуць не ўдалося толькі Фару Вітаўта, узарваную камуністамі. Памятаю адно, як пасля атрымання рэлігійнай свабоды мы сабраліся на св. Імшу на месцы, дзе стаяла калісьці магутная святыня – хтосьці стаяў, хтосьці проста сядзеў на траве, – а ў паветры адчуваўся подых волі.*

*Лічу, што самае вялікае дасягненне апошніх 30-ці гадоў – гэта менавіта разрастанне дыяцэзіі. Хоць мне і прыкра было развітвацца з катэдрай і пераходзіць у парафію да Дзевятоўцы, а цяпер належаць да парафіі св. а. Піо, я разумею, што гэта клопат біскупа пра тое, каб усім было дастаткова месца ў касцёле і каб духавенства магло кожнаму ўдзяліць увагу. Дзякуй Богу за новых вернікаў і новыя святыні.*

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Экалагічнае вучэнне папы Францішка блізкае японцам

Японцы з вялікім разуменнем ставяцца да экалагічнага вучэння папы Францішка, змешчанага ў энцыкліцы "Laudato si'", што ў значнай ступені прадыктавана аварыяй на АЭС у Фукусіме.

На працягу 5-6 гадоў пасля катастрофы пастаянная група каталіцкіх добраахвотнікаў прыязджала з усёй краіны ў рэгіён Фукусіма. У гэты час былі наладжаны міжасобасныя адносіны, і дапамога па-ранейшаму аказваецца ў розных формах.

Каардынацыяй займаецца адзін з дапаможных біскупаў Токіа. Ён прыцягвае валанцёраў, арганізуе дапамогу, наведвае ахвяр, каб паказаць, што, хоць і мінула 10 гадоў з дня катастрофы, гэта не значыць, што пацярпелых пакінуць без падтрымкі.

### Папскі астраном: "Лічу, што навука мае патрэбу ў рэлігіі"

Езуіт Гай Кансальманьё прыняў удзел у віртуальным семінары для выкладчыкаў і студэнтаў Універсітэта Лаёла Мэрымаунт у Каліфорніі. ВНУ запрасіла папскага астранома. Па словах кіраўніцтва ўніверсітэта, неабходна пастаяннае абнаўленне ведаў у галіне ўзаемасувязі навукі і рэлігіі, каб будучыя інжынеры і вынаходнікі мелі больш шырокую карціну навакольнага свету.

Ватыканская абсерваторыя – адзін з самых старажытных астранамічных цэнтраў у свеце. Яе вытокі адносяцца да 1582 года, калі папа Грыгорый XIII стварыў камітэт па вывучэнні навуковых дадзеных, неабходных для рэфармавання календара.

### Езуіты хочуць сабраць кампенсацыю для патомкаў нявольнікаў

Супольнасць езуітаў у ЗША вырашыла стварыць спецыяльны фонд у 100 мільёнаў долараў для выплаты кампенсацый патомкам нявольнікаў і "паяднання паміж расамі ва ўсіх аб'яднаных штатах".

Гэта ўжо не першая ініцыятыва езуітаў, звязаная з узгаданай праблемай. Такі ж фонд ствараўся ў 1960-ых гадах правінцыяй у штаце Мэрылэнд.

З фінансавага пункту гледжання, езуіцкі фонд з'яўляецца самым вялікім намаганнем Каталіцкага Касцёла ў справе перапрашэння сённяшніх афраамерыканцаў за ўчыненыя іх продкам крыўды.

### Малітоўныя інтэнцыі на красавік

**паўсюдная**

Молімся за асоб, якія падвяргаюць сваё жыццё небяспецы, змагаючыся за асноўныя правы ў дыктатурах, аўтарытарных рэжымах і нават у дэмакратыях, якія перажываюць крызіс.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў земляробаў нашай дыяцэзіі і абараніў нас ад голаду.

# ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ Ў ЦЭНТРАЛЬНА-АФРЫКАНСКАЙ РЭСПУБЛІЦЫ

працяг са с. 1

**Нядзеля Мукі Пана адзначаецца самым урачыстым чынам ва ўсім свеце. Яна нагадвае пра ўезд Езуса ў Іерусалім, каб там памерці і ўваскрэснуць, а таксама распачынае святкаванне Пасхальнай таямніцы.**

grodnensis.by




Падобным чынам гэты дзень праходзіць і ў Цэнтральнаафрыканскай Рэспубліцы, дзе ў дыяцэзіі Буар ужо некалькі месяцаў служыць кс. Анджэй Ганчар, місіянер з Гродзенскай дыяцэзіі.

Святар адзначае, што на перыяд Вялікага посту разам з вернікамі зрабілі пастанову, каб кожны дзень выходзіць у іншую вёску (часам за 35-40 км) – штосьці накшталт нашых пешых пілігрымак. У Пальмовую нядзелю яны таксама вырушылі ў дарогу. Кс. Анджэй адзначае, што ў працэсіі ўдзельнічала нябачаная дагэтуль колькасць людзей, ідучы праз усю вёску ад адной святыні да другой, спяваючы рэлігійныя песні, дзелячыся на шляху сваёй верай і сведчаннем, падбадзёрваючы тых, хто знаходзіцца ў страху з-за ўзброенага канфлікту, а таксама паказваючы, што іх Пан – Езус Хрыстус.

“У гэтай вёсцы жыве шмат мусульман, лютэран і людзей іншых веравызнанняў. На тварах тых, каго сустракалі, мы бачылі радасць і супакой. Нашы вернікі таксама адпаведна падрыхтаваліся да гэтага дня: апранулі самае прыгожае адзенне, зрабілі пальмовыя галінкі”, – дадае святар.

Місіянер адзначае, што з-за палітычнай сітуацыі на гэтым кантыненце ўсім трэба яшчэ больш набліжацца да Бога праз малітву, засяроджанне і Божае слова.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**УКРАІНА.** У Львове ствараецца новы асяродак польскіх бенедыкцінцаў. Бр. Леапольд Рудніцкі і бр. Барыс Катоўскі з Тыньца, а. Максімільян Навара і бр. Яфрэм Міхальскі з Любіна прыехалі ў Львоў, каб стварыць капеланію для кляштара сясцёр бенедыкцінак. Кляштар св. Юзафа быў заснаваны ў Львове дзякуючы запрашэнню арцыбіскупа Мечыслава Макрыцкага, а таксама пэўнай сям’і са Швейцарыі, якая вырашыла зафундаваць манастыр у сталіцы заходняй Украіны. У год, прысвечаны апекуну Касцёла, бенедыктынцы спадзяюцца, што яго заступніцтва дапаможа ім у развіцці місіі ва Украіне.

**ПОЛЬШЧА.** Фонд гуманітарнай дапамогі “Redemptoris Missio” з Познані накіроўвае ў Цэнтральна-Афрыканскую Рэспубліку двух валанцёрак. Яны будуць падтрымліваць мясцовых жанчын і рыхтаваць медыцынскі персанал у рамках праекта “Бяспечная мама”. У мінулым месяцы фонд пачаў збор грошай на набыццё абсталявання для 23-ох цэнтраў здароўя і арганізацыю навучання для іх супрацоўнікаў. Як падкрэсліваецца, кошт абсталявання і матэрыялаў для аднаго цэнтра складае крыху больш за 2,3 тысячы злотых. Фонд “Redemptoris Missio” мае шматгадовы вопыт рэалізацыі праектаў дапамогі, і дзякуючы яго дзейнасці падтрымка дасягнула сотняў тысяч пацыентаў з больш чым 50-ці краін Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі і Азіі.

**ФРАНЦЫЯ.** Міністр унутраных спраў Францыі Жэральд Дарманен у лісце да прэфектаў і паліцыі загадаў узмацніць ахову касцёлаў, сінагог і мячэцяў. У выпадку касцёлаў міністр раіць прэфектам скараціць колькасць пад’ездаў да месцаў культу, звярнуць асаблівую ўвагу на транспартныя сродкі, прыпаркаваныя побач, і ўзмацніць прысутнасць паліцыі падчас прыбыцця і ад’езду вернікаў. Нагляд за месцамі культу будзе здзяйсняцца падчас хрысціянскіх свят Вербнай нядзелі і Вялікадня, габрэйскай Пасхі і Рамадана, якія мусульмане святкуюць з 13 красавіка па 12 мая.

**ІТАЛІЯ.** Сярод італьянскай моладзі павялічваецца колькасць выпадкаў эмацыянальных расстройстваў, трывогі і прыступаў панікі – вынікае з даследаванняў псіхолагаў, якія аналізавалі ўплыў пандэміі Covid-19 на падлеткаў. Маніторынг быў праведзены ў 43-ох школах горада Ферара. Больш за 12 тысяч вучняў ва ўзросце ад 13 да 19 гадоў з рэгіёна Эмілія-Раманья, якія прынялі ўдзел у гэтым даследаванні, сталі рэпрэзентатыўнай выбаркай для апісання становішча італьянскай моладзі пасля года пандэміі і месяцаў дыстанцыйнага навучання.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# “АД СЭРЦА ДА СЭРЦА” – ВАЛАНЦЁР АБ ПРАЦЫ З ДЗЕЦЬМІ

працяг са с. 1

**Наша міласэрнасць адносна іншых павінна быць адказам на міласэрнасць Бога да нас. Хрыстос прыгадвае пра гэта, калі кажа: “Будзьце міласэрныя, як і Айцец ваш міласэрны” (Лк 6, 36).**

**Мы паразмаўлялі з Аленай Давідовіч – каталічкай, мамай двух дзяцей, валанцёркай і стваральніцай праекта “Ад сэрца да сэрца”.**

Вольга Сяліцкая

### ВАЛАНЦЁР ПА ЖЫЦЦІ

Жанчына ўжо на працягу доўгага часу займаецца дабрачыннасцю ў розных сферах: дапамагае ў сацыяльным цэнтры “Васількі”, як майстар па вязанні перадае свае работы цэнтру “Пара” для продажу на кірмашах, пасля заканчэння курсаў бальнічных клоунаў у якасці бясплатнага аніматара віншуе з днём нараджэння асаблівых дзяцей.

*“Перш за ўсё, міласэрнасць для мяне – гэта дапамога іншым,* – тлумачыць валанцёрка. – *Шчырая, ад усяго сэрца. Магчыма, выклікаемая спачуваннем, але ніяк не жалем. Асабіста я не магу прайсці міма чужога болю і несправядлівасці”.*

### ПРАЕКТ, ПРА ЯКІ ДОЎГА ДУМАЛА

Ужо два месяцы спадарыня Алена працуе ў праекце “Ад сэрца да сэрца”. Яе выхаванцамі з’яўляюцца дзеці са шматдзетных сем’яў, а таксама з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Жанчына праводзіць інтэграваныя заняткі па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, вакале, тэатральным мастацтве. Адна са спецыяльнасцей спадарыні Алены – музычны кіраўнік. Гэта дапамагае ёй у валанцёрскай дзейнасці.

*“Ідэя праводзіць заняткі для дзяцей прыйшла даўно, але не было сродкаў для яе рэалізацыі,* – прызнаецца стваральніца праекта. – *У мяне самой расце дачка з інваліднасцю. І хацелася дапамагаць не толькі дзецям, але і іх бацькам, бо я магу добра іх зразумець. Яны разам са сваімі дзецьмі 24/7, і няма ніякіх гурткоў ці секцый для іх. Думаецца, Бог убачыў тое, што раблю, і адказаў міласэрнасцю на маю міласэрнасць”.*

Праект “Ад сэрца да сэрца” рэалізуецца пры супрацоўніцтве з установай дадатковай адукацыі для дарослых “Студыя карысных кампетэнцый”. У камандзе працуюць яшчэ двое асноўных валанцёраў, адзін з якіх – выхаванец дзіцячага дома. *“У нас няма выпадковых людзей. Усе вельмі жыццярадасныя і спагадлівыя”,* – адзначае спадарыня Алена.

Заняткі праходзяць 2 разы на тыдзень па 2-2,5 гадзіны. Да кожнага патрэбен асабісты падыход, таму што ўсе выхаванцы розныя. Узроставая катэгорыя дзяцей – ад 3 да 12 гадоў. Але наведвае заняткі і дзяўчына, якой 23 гады. Яна мае асаблівасці псіхафізічнага развіцця.



*“На жаль, не заўсёды ёсць магчымасць уключыцца ў 2 гадзіны і аддаць дзецям на заняткі ўсё, што хацелася б,* – з сумам прызнаецца валанцёрка. – *Кожнаму хочацца ўдзяліць шмат увагі, абняць, пагаварыць з бацькамі – ім таксама нялёгка. Гэта хіба ці не адзіная «пабочная з’ява» ў валанцёрстве – недахоп часу для ўсіх падапечных”.*

Дзеці прыходзяць з бацькамі і не застаюцца адны. Разам з мамамі малююць і гуляюць, займаюцца. *“Мамы выйшлі з кабінета толькі аднойчы – калі мы з дзецьмі рабілі паштоўкі да 8 Сакавіка”,* – адзначае спадарыня Алена.

Са слоў валанцёркі, у запасе заўсёды ёсць некалькі ідэй для гульняў і заняткаў. Бо ніколі не ведаеш, чаго захочуць дзеці і які настрой у іх будзе. Але ў асноўным работы выдатна прымаюць прапанаваныя ім ідэі і гульні.

### КАНЦЭРТ НАПЯРЭДАДНІ СВЯТА БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

На заняткі ходзяць 12 дзяцей, часам менш – часта яны хварэюць. Варта адзначыць, што ініцыятыва падабаецца не толькі дзецям, але і іх бацькам. *“Мне так прыемна чуць водгукі ад дзяцей і іх мам. Кажуць, што раней малыя не хацелі маляваць і выразаць, а тут робяць аплікацыі і малюнкі з задавальненнем”,* – з усмешкай прызнаецца валанцёрка.



У дзяцей з захворваннямі адбываецца сацыялізацыя і зносіны з дзецьмі са шматдзетных сем’яў. Гэта спрыяе іх разняволенню. Разам спяваюць, танцуюць, гуляюць. *“Яшчэ адзін момант нашага з’яднання з дзецьмі – падрыхтоўка да сумеснай выставы работ і канцэрта, дзе будзе пастаноўка казкі «Рэпка»”,* – дзеліцца планамі спадарыня Алена.

Бацькі дапамагаюць у падрыхтоўцы дэкарацый і касцюмаў, а дзеці з нецярпеннем чакаюць канцэрта. Ён адбудзецца напярэдадні свята Божай міласэрнасці.

### КРУГАВАРОТ ДАБРА І ЛЮБОВІ

Валанцёрка і арганізатар праекта кажа, што ёй важна дапамагаць людзям. Таму што, калі ўсёй краінай збіралі сродкі на аперацыю для яе дачкі, шмат хто дапамог. Вялікая сума была сабрана дастаткова хутка. *“Цяпер, калі з’явілася магчымасць вярнуць тое дабро, якое атрымала, – я ёй скарысталася. Гэта кругаварот дабра і любові. Ты дапамог – табе дапамаглі або з тваёй дапамогай – камусьці іншаму. Бо душа – гэта пасудзіна. І чым яна напоўнена, тое з яе і льецца”,* – падагульняе жанчына.

# ВАРТА БЫЦЬ ДОБРЫМ УЖО ЦЯПЕР!

**Як вернікі мы спадзяёмся, што ўваскрэснем пасля смерці. Але як? Што дазваляе нам перамагчы смерць?**

*Кс. Юрый Марціновіч*


wikipedia.pl

Спачатку трэба выразна сказаць сабе: можам уваскрэснуць дзякуючы Езусу. Гэта Ён апраўдаў нас перад Богам і падрыхтаваў для нас вечнае жыццё. Збаўленне ўжо здзейснілася. Задача чалавека – толькі прыняць гэты дар. Але як яго прыняць? Тут адказ просты: чым больш у нас дабра, тым больш збаўлення.

Шлях збаўлення – шлях пастаянна ўзнаўляемай вернасці дабру. Гэта адзіны спосаб прыняць дар уваскрэсення ў сваім жыцці. Варта адзначыць, што збаўленне адбываецца на гэтым шляху, таму яно няспыннае, а самым важным элементам з'яўляецца вернасць. Вернасць дабру. Гаворка не пра нейкі аднаразовы акт прыняцця збаўлення. Але пра нешта большае – пра паслядоўнасць, рашучасць і трыванне ў добрым, пра злучэнне свайго жыцця з жыццём Езуса. Толькі з Ім дабро можа поўнасцю раскрыць усю сваю моц.

З Евангелля мы ведаем, што Хрыстос хадзіў па жыцці, робячы дабро (параўн. Дз 10, 38). Ён быў добрым Чалавекам, які вылечваў мноства хворых, дараваў грахі, навучаў, суцяшаў і ўваскрашаў. Ён быў добры, але ўсё ж Яго асудзілі і забілі, як злачынца. Можна сказаць, што гэта вялікая несправядлівасць! "Хадзячае дабро" прайграла, вісела на крыжы... Але аказалася, што Хрыстос уваскрос.

***"Справа не толькі ў тым, што Ён уваскрос як чалавек, але ў тым, што з уваскрасеннем чалавека выявіла сваю моц, сваю сілу дабро, якое гэты Чалавек сабою ўяўляў. Дабро нельга ўкрыжаваць, дабро нельга пакласці ў магілу. Дабро ўваскрасае",*** – падкрэсліваў кс. Юзаф Цішнер.

Такім чынам, адбылося нешта неверагоднае. Дабро, якое, па-людску гледзячы, прайграла, уваскрэсла з мёртвых, канчаткова перамагло! Свет перавярнуўся дагары нагамі. Аказалася, што існуе і іншая перспектыва, акрамя часовай, – перспектыва неўміручага дабра.

Добры чалавек ніколі не памрэ. Пра гэта нам гаворыць урачыстасць Уваскрасення Пана, гэтую ж Добрую Навіну абвяшчае і Евангелле. Аднак мы павінны верыць у гэта, а паверыць ва ўваскрасенне Хрыста – значыць, у пэўнай ступені, паверыць таксама ў сябе. Не можна верыць у Хрыста, не верачы адначасова ў сябе. І не можна верыць у сябе, не верачы ў Хрыста. А што значыць верыць у сябе? Гэта значыць верыць у тое, што дабро, якое чалавек здзяйсняе ў жыцці, бессмяротнае дзякуючы Хрысту.

Хрыстос кажа: яны могуць цябе забіць, але калі пойдзеш Маёй дарогай (дарогай вернасці дабру, якой Я сам ішоў), то ўваскрэснеш. Бог выйдзе за ўсе схемы, пераадолее ўсе межы – нават смерць, але выратуе тваё дабро. Не дазволіць яму знікнуць. Дабро павінна ў рэшце рэшт перамагчы.

Аднак мы толькі людзі. І не бывае так, што мы альбо добрыя, альбо дрэнныя. Наш маральны стан часта больш складаны. Таму ***"ўваскрасенне – гэта не нешта, што наступіць пасля смерці чалавека. Уваскрасенне – гэта тое, што ўжо адбываецца, адбываецца цяпер. Колькі разоў у душы чалавека з попелу паўстае полымя добрага ўчынка, столькі ўваскрасенне паўтараецца ў жыцці кожнага чалавека"*** (кс. Юзаф Цішнер).

Часам мы задаёмся пытаннем: ці варта быць добрым? Велікодныя святы – выдатны час, каб адказаць на яго.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА


*Алена Майсюк*

# ЗА ЎТВАРЭННЕ СМЕЦЦЯ АДКАЗВАЕ КАНЧАТКОВЫ СПАЖЫВЕЦ



**Спажывецкае грамадства стварае ўмовы для перавытворчасці з мэтай празмернага набыцця прадукцыі. Чалавек бярэ на сябе адказнасць за выраб, упакоўку, транспарціроўку і пакупку тавараў, іх выкарыстанне і ўтылізацыю. Памяншаючы спажыванне, можна мінімізаваць сваю адказнасць, а правільна абыходзячыся з адходамі, пазбавіцца ад асабістага негатыўнага ўплыву на навакольнае асяроддзе.**

## АДКІНЬ СТЭРЭАТЫПЫ І ЖЫВІ СЁННЯ!

Швецыя – першая краіна, якая пазбавілася ад лішку смецця, прытрымліваючыся трох простых прынцыпаў: **рамантуй, дзяліся, перапрацоўвай.** Свядомае стаўленне да рэчаў мінімізуе выдаткі на набыццё, эксплуатацыю і, як вынік, скарачае колькасць смецця на планеце. Усё, што страціла актуальнасць для аднаго чалавека, можа паслужыць для патрэб іншага. А што ж рабіць з рэальным смеццем?

Умоўна бясконцую колькасць разоў можна перапрацоўваць толькі метал і шкло. Тым не менш, гэта ўсё роўна будзе энергазатратна, бо ўсё трэба дастáвіць, адмыць, перапрацаваць і вырабіць новыя прадукты.

Адходы трэба сартаваць, каб паменшыць:
- колькасць смецця на "захаванне";
- выдаткі на вываз смецця з кантэйнераў;
- спажыванне энергіі і прыродных рэсурсаў на вытворчасць новага шкла, пластыка, паперы, металу.

## ПЕРАТВАРЫ СМЕЦЦЕ Ў ЗОЛАТА!

Перапрацоўваемыя адходы можна здаваць у пункты збору "Заготторг". Акрамя таго, кантэйнеры для раздзельнага збору смецця стаяць амаль усюды.

1. **Шкло** можна пакідаць у спецыяльных кантэйнерах пры ўваходзе ў вялікія крамы або ў кантэйнерах "Шкло" на пляцоўках для збору смецця. У ідэале з бутэлек трэба здымаць усе этыкеткі.

2. **Паперу** па тым жа прынцыпе пакідаюць у спецыяльных кантэйнерах "Папера". Сюды адносяцца: газеты, часопісы, кардонныя ўпакоўкі, папяровыя пакеты. Не адносяцца: шпалеры, фотапапера, упакоўка "Тэтра Пак" (сокі, малако), скотч.

3. **Пластык** выкідваюць у аднайменныя кантэйнеры на пляцоўках для збору смецця. Сюды адносяцца ПЭТ-бутэлькі ад напояў, шампуняў і іншай касметыкі, ёгуртаў, кефіру, малака і г. д., іншая каляровая пластмаса, пластыкавыя скрынкі ад тортаў і іншых харчовых прадуктаў, поліэтыленавая плёнка і пакеты. Не адносяцца: упакоўка "Тэтра Пак" і аднаразовы посуд. ПЭТ-бутэлькі трэба сціскаць і выліваць з іх рэшткі вадкасці. Таксама з іх неабходна здымаць вечкі – гэта іншы тып пластыка, які можна пакідаць у спецыяльных кантэйнерах у гандлёвых цэнтрах, крамах, школах і ўніверсітэтах.

4. **Метал** можна кідаць у кантэйнер "Пластык", яго адсартуюць на заводзе і дадуць другое жыццё.

5. **Батарэйкі** варта выкідваць толькі ў спецыяльныя кантэйнеры "Для батарэек" у любой краме або адміністрацыйным будынку. Іх збіраюць як шкодныя для прыроды адходы.

6. ***Лекі*** трэба змяшчаць толькі ў спецыяльныя кантэйнеры. Згодна з новымі правіламі абыходжання з адходамі, іх прыёмам павінны займацца аптэкі і медыцынскія ўстановы. Калі ў Вашай мясцовасці не ўстаноўлены такія кантэйнеры, можна паскорыць працэс іх з'яўлення, напісаўшы зварот у гарвыканкам з пытаннем "Куды здаваць пратэрмінаваныя лекі?".

7. **Тавары, што змяшчаюць ртуць,** варта выкідваць толькі ў спецыяльныя кантэйнеры пры галоўных уваходах у гандлёвыя цэнтры, будаўнічыя крамы або аднесці ў МНС. Да такіх тавараў адносяцца лямпачкі ў форме спіралі, доўгія лямпы дзённага святла, тэрмометры. Сучасныя святлодыёдныя лямпы і старыя лямпы напальвання з'яўляюцца "Змешанымі адходамі".

8. **Электрапрыборы** можна здаць у спецыяльныя прыёмныя пункты, якія ёсць у кожным буйнейшым горадзе, а таксама ў "Заготторг".

9. **Кухонныя ачысткі** старайцеся перапрацаваць у кампост самастойна.

10. У кантэйнеры **"Змешаныя адходы"** (смецце, якое не перапрацоўваецца) можна выкідваць упакоўкі "Тэтра Пак", падгузнікі, аднаразовы посуд, шпалеры, фотапаперу, клейкія стужкі, пакеты ад малочных прадуктаў, фальгу, фанцікі, латкі ад мясных прадуктаў.

11. **Буйнагабарытнае смецце** можа і не з'яўляцца, калі разумна падыходзіць да спажывання. Старайцеся самі сартаваць па матэрыялах, з якіх складаецца выкідваемая рэч. І памятайце, што кантэйнер "Для буйнагабарытных адходаў" не прызначаны для бытавога смецця – так рэсурсы не будуць адсартаваныя.

12. **Адзенне і абутак** прымаецца дабрачыннымі фондамі, на бясплатных кірмашах, некаторымі крамамі для наступнай перапрацоўкі. Рэчамі можна абменьвацца, рабіць з іх нешта новае – ім цалкам няма месца ў кантэйнерах для смецця.

Хрысціянскія каштоўнасці ўключаюць беражлівасць і адказнасць. Яны дапамагаюць змяніць падыход і стаўленне да рэчаў – з аднаразовага перайсці на шматразовы. Якія б рэчы не былі, калі яны аднаразовыя, мы перастаём іх шанаваць проста таму, што яны "на адзін раз". Важна таксама разумець, што праблема ляжыць яшчэ глыбей і звязана з пажырхоўным стаўленнем не толькі да рэчаў, але і да людзей: культура спажывання аднаразовага распаўсюджваецца і на тое, як мы ставімся да сваіх блізкіх. Таму адмова ад празмернага спажывання – гэта толькі першыя крокі на шляху да змены сваіх звычак і саміх сябе.

**Памятайце: адказнасць за лёс пакупкі кладзецца на канчатковага спажыўца.**

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# КАЛІ ТРЭБА ЖАНІЦЦА, ЦІ СТАЛАСЦЬ ДА СУЖЭНСТВА



*Кс. Павел Салабуда,* псіхолаг

Назіраючы сёння за маладымі людзьмі, якія збіраюцца заключыць сужэнскі саюз, можна заўважыць, што ўзрост будучых сужэнцаў відавочна памяншаецца. Гэты факт можна інтэрпрэтаваць па-рознаму: з аднаго боку, гэта сведчыць аб жаданні як мага хутчэй уступіць у шлюб перад Богам, але з іншага – аб легкадумным і безадказным падыходзе да факта шлюбу. Таксама сёння існуе тэндэнцыя, што многія маладыя людзі наогул не маюць намеру жаніцца, нават ужо выхоўваючы ўласных дзяцей, а сакраментальны шлюб адтэрміноўваюць, тлумачачы, што яшчэ не даспелі да гэтага. Дык калі трэба жаніцца?

Адказ просты: калі асоба дастаткова сталая для шлюбу. Сталасць да сужэнства можна ўспрымаць у розных значэннях. Варта ўсвядоміць, што яна разумеецца не толькі як ідэальная мадэль, але і як гатоўнасць да змен, жаданне развівацца, каб рэалізаваць гэтую мадэль у сваім жыцці. Сталы чалавек стараецца ўмела і мудра кіраваць сабой у такім складаным працэсе развіцця. Варта таксама адзначыць, што існуе некалькі відаў сталасці:

**Фізічная** – здольнасць арганізма выконваць задачы, звязаныя з сужэнствам.

**Палавая** – здольнасць да палавога сужыцця і нараджэння патомства.

**Прававая** – дасягненне ўзросту, дазволенага законам для заключэння шлюбу.

**Эканамічная** (сацыяльная) – дасягненне матэрыяльнай незалежнасці, уладкаванне на прыбытковую працу і да т. п.

**Псіхічная** – здольнасць выконваць сужэнскія і бацькоўскія ролі здавальняюча для сужэнскіх і бацькоўскіх адносін.

**Духоўная** – цэнтральная сістэма, што кіруе жыццём чалавека, які разумее сябе і ўласнае жыццё разам з Богам.

Сужэнства разумеецца як пастаянны саюз, а таму не можа будавацца дзецьмі. Сталасць да шлюбу вызначаецца псіхічнай сталасцю, і тут няма ніякіх дзяржаўных правіл – неабходна вызначыць яе самастойна. Ёсць прыклады людзей, маладых па ўзросце, але сталых




па жыцці, і наадварот – дарослых, але безадказных, якія паводзяць сябе як дзеці.

Малады чалавек павінен прайсці ўсе стадыі сталення: навучыцца пераводзіць увагу з сябе на іншых, умець супераржываць праблемам бліжніх, а таксама быць здольным актыўна і адказна дзейнічаць дзеля іх дабра. Усё гэта робіць асобу сталай да шлюбу. Акрамя таго, нельга забываць пра спецыяльную падрыхтоўку да сужэнства: дыстанцыйную (у сямейным доме), бліжэйшую (выхаваўчыя ўрокі і катэхезы) і непасрэдную (перадшлюбныя курсы, арганізаваныя Касцёлам).

**У канцы пра самае важнае:** гэта Бог, ствараючы мужчыну і жанчыну, учыніў так, што пакіне мужчына бацьку свайго і маці і злучыцца з жонкай сваёй, і будуць двое адным целам (параўн. Мк 10, 6–8).

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці існуе Божы план для кожнага чалавека?

grodnensis.by

*"Бласлаўлёны Бог і Айцец Пана нашага Езуса Хрыста, які блаславіў нас у Хрысце ўсялякім духоўным бласлаўленнем на нябёсах і выбраў нас у Ім перад стварэннем свету, каб мы былі святымі і беззаганнымі перад Ім у любові. Ён прадвызначыў нас да ўсынаўлення праз Езуса Хрыста, паводле ўпадабання сваёй волі, дзеля хвалы сваёй праслаўленай ласкі, якою Ён адарыў нас ва Умілаваным" (Эф 1, 3–6).*

*Словы Святога Пісання падкрэсліваюць, што для кожнага чалавека Бог падрыхтаваў асабісты план збаўлення. Кожны чалавек не выпадковы, ён не выпадкова нарадзіўся ў той ці іншай сям'і, месцы, асяроддзі. У першую чаргу, ён пакліканы да збаўлення. Таксама кожны мае асабістыя пакліканні, індывідуальны жыццёвы шлях, ідучы якім дойдзе да збаўлення.*

*Бог шануе нашу вольную волю, таму не змушае, а толькі заклікае да прыняцця Яго намераў паводле жыцця канкрэтнай асобы. Заданне кожнага ў тым, каб распазнаваць і старанна выконваць Божую волю, супрацоўнічаць з ласкай Пана. Гледзячы на ўласныя таленты і здольнасці, разважаючы падчас асабістай малітвы, чалавек можа паволі распазнаць Божы план паводле сябе і асабіста вырашыць, прымаць запрашэнне Усемагутнага ці не.*

# ХРЫСТОС УВАСКРОС, А СВЯТАР АДСЛУЖЫЎ, АБО ДУХАВЕНСТВА ТАКСАМА СВЯТКУЕ

працяг са с. 1

**Вялікдзень – свята, якое звычайна збірае разам усю сям'ю, бо радасць ад Уваскрасення Пана настолькі вялікая, што складана ёю не падзяліцца, нават калі хтосьці з родных знаходзіцца ў сварцы. Прабачаюцца або хаця б на момант забываюцца ўсе крыўды, бо і той, хто адцягваў з велікоднай споведдзю да апошняга дня, імчыць да канфесіянала ў дзень Уваскрасення Хрыста, каб з чыстым сумленнем і супакоем на душы адпачыць у коле сям'і.**

Ангеліна Марцішэўская

Часам у клопаце пра сябе і сваіх самых блізкіх забываемся пра тых, хто дапамагае нам крочыць да Езуса і ўваходзіць у Велікодны перыяд абноўленымі. А яны таксама хочуць святкаваць.

*"Апошнія дні Вялікага посту – адны з самых «гарачых» для святароў, бо менавіта ў гэтыя дні адбываецца самы вялікі наплыў людзей, ахвотных паспавядацца. Мне аднойчы давялося прасядзець у канфесіянале не працягу 8 гадзін з невялікімі перапынкамі на глыток кавы, каб кожны меў магчымасць спазнаць Божую міласэрнасць і ласку адпушчэння грахоў,* – распавядае кс. Павел Скуба, пробашч парафій у Раготне і Дварцы. – *І гэта выдатна, бо цешыць, што людзі сумленна імкнуцца выканаць абавязковую ўмову – прыступіць да споведзі прынамсі раз у год. Аднак часта здараецца, што некаторыя падыходзяць і ў Нядзелю Уваскрасення, просячы сесіі ў канфесіянал, каб яны мелі магчымасць паспавядацца. Заўсёды стараемся дапамагчы чалавеку прымірыцца з Богам, але, нягледзячы на гэта, хацелася б, каб паслуга святара шанавалася і мы таксама мелі крыху часу для сябе ў гэты важны дзень".*

І зразумела. Мы ўсе прызвычаіліся да сваёй, свецкай, традыцыйнай велікоднай схемы: яйкі – Рэзурэкцыя – святочны стол. А як жа выглядае адзначэнне Вялікадня ў духоўных асоб, калі іх графік больш напружаны?

### ЧАС СЛУЖЫЦЬ І ЧАС СВЯТКАВАЦЬ

Да таго, як заняць пасаду пробашча ў невялікіх парафіях, кс. Павел служыў вікарыем у гродзенскім катэдральным касцёле і лідскім касцёле Святой Сям'і – парафіях, дзе колькасць вернікаў вылічаецца тысячамі.

*"Калі нёс паслугу ў Гродне, пасля рэзурэкцыйнай св. Імшы, якая звычайна цэлебруецца а 7-ай гадзіне раніцы, святары з усяго горада збіраліся на велікодны сняданак у сталовай Вышэйшай духоўнай семінарыі. Гэта заўсёды быў прыгожы, урачысты пасілак. Мясцовае духавенства станавілася адной вялікай сям'ёй – біскупы, ксяндзы, клерыкі. І сняданак быў багацейшы, чым звычайны семінарыйны пасілак. Часта пра ежу ў Alma Mater казалі, што харчаванне, як у арміі – макароны і грэчка, бульба ў розных формах і, канешне ж, сасіскі, а ў святочны дзень кухаркі вельмі стараліся: кексы, булачкі, жэле, салаты, гарачыя стравы",* – дзеліцца святар.

Пасля ўрачыстага сняданка святары вяртаюцца кожны ў сваю парафіі, каб ізноў занурыцца ў служэнне: цэлебраваць св. Імшы і заспакойваць духоўныя патрэбы вернікаў. Важна, каб у гэты дзень у святыні чуваў святар, бо, на жаль, для часткі парафіян Вялікдзень – адзіны арыенцір, які прыводзіць іх у святыню. Са слоў кс. Паўла, у катэдры ксяндзы заўсёды дамаўляліся, хто застаецца ў касцёле у першай палове дня, а хто ўвечары, каб у кожнага была магчымасць ненадоўга завітаць да родных.

*"Зразумела, бацькі заўсёды застануцца бацькамі, аднак з прыняццем сакраманту святарства ў чалавека з'яўляецца яшчэ адна сям'я. Гэтак жа ў хлопца ці дзяўчыны, якія бяруць шлюб. Яны маюць права адзначыць свята ўдваіх, а пасля наведаць родных. Таму і духоўныя асобы часцей за ўсё святкуюць Вялікдзень разам з тымі, хто служыць побач, а пасля едуць у адведкі. Гэта натуральна",* – адзначае кс. Павел.

### АДЗІН ВЯЛІКДЗЕНЬ – ДВА ЎВАСКРАСЕННІ

Служачы пробашчам, кс. Павел цэлебруе дзве Рэзурэкцыі ў адзін дзень – у парафіі ў Раготне а 6-ай гадзіне раніцы і ў парафіі ў Дварцы – а 8-ай. Калі мясцовыя справы вырашаны, а ўсе вернікі разышліся дадому сустракаць гарадскіх гасцей, святар мае магчымасць наведаць сваіх бацькоў і бабулю ў Крамяніцы (Зэльвенскі раён). *"У нашай сям'і так павялося, што ані дні нараджэння, ані іншыя свецкія ўрачыстасці не маюць такога значэння ў святкаванні, як Вялікдзень. У гэтую ўрачыстасць мы заўсёды мелі найбольш разнастайны і багаты стол. Бабуля была адказная за печыва, самае смачнае – з начынкай з яблычнага варэння. Далей, зразумела, яйкі. А яшчэ вялікая колькасць салатаў, на розны лад прыгатаванае мяса і рыба. Раскоша!"* – дадае з усмешкай святар.

Кс. Павел таксама мае цёплыя ўспаміны з супольнага сямейнага перажывання Святога Пасхальнага Трыдуума. Ён з братамі звычайна прыслужваў каля алтара, а іх бацька імкнуўся прыняць больш актыўны ўдзел у набажэнстве, напрыклад, несучы балдахін над Найсвяцейшым Сакрамантам ці крыж падчас працэсіі. *"Памятаю, у Вялікую пятніцу ў сям'і панаваў асаблівы настрой. Адметна, што кожны з нас перажываў яе на адной хвалі, цалкам пранікаючыся атмасферай. У гэты дзень мы абыходзіліся без тэлевізара і камп'ютэра, а пасля набажэнства абмяжоўваліся сціплай вячэрай – гарбатай з хлебам – і клаліся спаць,* – распавядае святар. – *Калі я яшчэ не быў навучэнцам семінарыі, сямейную велікодную малітву заўсёды ўзначальваў бацька, а калі я перайшоў на трэці курс і атрымаў сутану – перадаў гэтае права мне. Так і да гэтуль – з Божым словам да родных звяртаюся я, а тата набожна моліцца побач".*

# ЗРАЗУМЕЦЬ МОЦ УВАСКРАСЕННЯ




*"За тое любіць Мяне Айцец, што Я аддаю жыццё сваё, каб узяць яго зноў. Ніхто не адбірае яго ў Мяне, але Я сам аддаю яго. Я маю ўладу яго аддаць і маю ўладу зноў узяць яго. Такую запаведзь Я атрымаў ад Айца Майго".*

*Ян 10, 17–18*

*Людвіга Цыдзік*

### ХРЫСТОС УВАСКРОС! САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Менавіта гэтымі словамі штогод традыцыйна вітаем хрысціян у час Вялікадня. Аднак што гэтае сведчанне значыць канкрэтна для Цябе і як уплывае на Тваё жыццё? Ці абмяжоўваецца ўваскрасенне выключна гістарычным фактам, які адбыўся 2 000 гадоў таму і перайшоў у нашу культуру як рэлігійны абрад? Ці ўсё ж вера ва ўваскрослага Езуса мае жывую сілу ў Тваім штодзённым існаванні, фарміруючы мысленне і паводзіны?

Насамрэч Езус Хрыстус – адзіны ў гісторыі чалавек, які дамовіўся са сваімі вучнямі сустрэцца на зямлі пасля сваёй жа смерці і стрымаў слова! На працягу жыцця Езус тройчы прадказваў свае мукі, смерць і ўваскрасенне, хоць ніхто з вучняў не мог зразумець гэта чалавечым розумам. Кожнае Яго слова здзейснілася дэталёва. "Яго тут няма, Ён уваскрос, як сказаў" (Мц 28, 6). Якую выснову можна з гэтага зрабіць? Божае слова з'яўляецца праўдай, яно стала бачнай рэальнасцю, а Езус заслугоўвае даверу.

### ВЕРАГОДНАСЦЬ ЗБАЎЦЫ

Уваскрасенне – жывы доказ таго, што ўсе абвінавачванні фарысеяў у адрас Езуса аказаліся ілжывымі. Яўрэі вінілі Яго ў блюзнерстве і прысваенні сабе тытула Цара Жыдоўскага, таму Ён быў прызнаны вартым смерці. Аднак сам Бог абверг гэты абвінаваўчы прысуд, даказаў рэлігійнаму і грамадзянскаму суду, што яны памыляліся. Вярхоўны Божы суд прывёў у выкананне новы прыгавор: невінаваты! Езус Хрыстус не быў годны смерці – усё, што Ён казаў і чаму навучаў, было праўдзівым і аўтэнтычным. Божая справядлівасць мае неаспрэчную сілу. Ён фактычна з'яўляецца Царом Жыдоўскім. Ён Кароль каралёў і Валадар валадароў (параўн. 1 Цім 6, 15; Ап 19, 16)!

Усё, што абвясцілі прарокі Старога Запавету і кім абвяшчаў сябе Месія падчас зямнога жыцця, набыло рэальную моц падчас уваскрасення і стала верагодным і бясспрэчным падмуркам нашай веры. Мы можам смела ісці за Тым, хто сказаў: "Я – дарога і праўда, і жыццё. Ніхто не прыходзіць да Айца інакш, як толькі праз Мяне" (Ян 14, 6), "Я добры Пастыр" (Ян 10, 14), "Я – Альфа і Амега, Першы і Апошні, Пачатак і Канец" (Ап 22, 13).

Калі б Хрыстос не ўваскрос з мёртвых, Ён застаўся б у статусе чарговага філосафа, мудраца, рэлігійнага лідэра, настаўніка ці прарока, накшталт Мухамеда ці Буды, якія да гэтага часу ляжаць у магілах. Але Езуса няма на могілках – Ён жыве і сам дае жыццё! "Ён з'яўляецца вобразам нябачнага Бога, першародным сярод усякага стварэння" (Кал 1, 15). Мы верым у жывога Бога, які можа дзейнічаць і праяўляцца ў нашай паўсядзённасці тут і цяпер.

### ДАР ЖЫЦЦЯ І СІЛА СМЕРЦІ

Паспрабуем зразумець, як Езус перамог смерць? Каб гэта ўсвядоміць, трэба вярнуцца да моманту стварэння чалавека. Найвялікшым дарам, які Бог даў Адаму, быў дар жыцця, разам з валоданнем целам, правам вольнай волі і прывілеем панавання на зямлі. "Пан Бог стварыў чалавека з пылу зямлі і ўдыхнуў у ноздры ягоныя подых жыцця, і стаў чалавек жывой істотай" (Быц 2, 7). Аднак, каб захаваць гэты цудоўны дар у першапачатковым стане, Адам павінен быў выконваць адну ўмову – быць паслухмяным Богу Айцу.

Усявышні хацеў, каб Божы Дух у целе чалавека кіраваў на зямлі, як у Нябесным Валадарстве, дзе пануюць любоў, дабро і праўда, а злу няма месца. "І загадаў Пан Бог чалавеку, кажучы: з усялякага дрэва ў садзе можаш есці, але з дрэва пазнання дабра і зла не спажывай, бо ў дзень, калі з'ясі з яго, напэўна памрэш смерцю" (Быц 2, 16–17). У гэтым заключаецца справядлівасць – каб зло было пакарана.

Смерць ужо існавала ў Эдэмскім садзе, але не мела падстаў і законнай моцы, каб забіваць. Так было да таго часу, пакуль Адам не паддаўся спакусе д'ябла і не даведаўся, што такое зло. Пасля падзення першы чалавек ужо не мог выканаць першапачатковы план Святога Бога. Грэх непаслухмянасці разарваў сувязь паміж Творцам і стварэннем ды вызваліў моц заражэння і смерці. Улада над смерцю перайшла ў рукі д'ябла (параўн. Гбр 2, 14). "Джала смерці – грэх, а сіла граху – Закон" (1 Кар 15, 56).

### ПЕРАМАГЧЫ СМЕРЦЬ МОЦАЙ ЕЗУСА

Там, дзе няма граху, смерць бяссільная. Пан Езус нарадзіўся без граху, не паддаўся спакусе і не ўчыніў нічога дрэннага. Ён быў беззаганны, таму смерць не мела законнай падставы пазбавіць яго жыцця. Памерці Езус Хрыстус мог толькі добраахвотна прыняўшы на сябе грахі і віну іншага чалавека. Так і здарылася.

Ён памёр за Твае і мае грахі, прыняў Тваю і маю смерць, каб мы маглі жыць цяпер і ў вечнасці. Смерць прыбіла наш грэх да Крыжа Езуса. "Але Бог уваскрасіў Яго, вызваліўшы ад пакут смерці, бо немагчыма было, каб яна трымала Яго" (Дз 2, 24). Калі б Збаўца не памёр за нас і не ўваскрос, мы не мелі б ніякай надзеі на вечнае жыццё.

Божы Сын даў нам прыклад сапраўднай любові – склаў абсалютную ахвяру з самога сябе, паказваючы, што калі мы аддадзім жыццё, то вернем яго, як і Езус. "Хто любіць жыццё сваё, загубіць яго, а той, хто ненавідзіць жыццё сваё на гэтым свеце, захавае яго для вечнага жыцця" (Ян 12, 25). Паколькі Хрыстос прыняў смерць, прызначаную Табе і мне, мы вінны Яму жыццё. Самы час пачаць жыць для Яго.

Многія людзі змагаюцца з разнастайнымі праблемнымі сітуацыямі ў жыцці, калі знішчэнне атакуе здароўе, сужэнства, любоў, працу, фінансы і г. д. Мы ўсе ведаем, наколькі магутнай і жорсткай можа быць смерць там, дзе ёсць грэх. Калі яна выбірае кагосьці, то не звяртае ўвагі ні на статус чалавека, ні на яго заслугі і багацце. Магчыма, у Тваім жыцці ёсць нешта, што ўжо памерла.

Памятай, у адзіночку Ты не справішся. Смерць лічыцца толькі з адным фактам – ці ведаеш асабіста ўваскрослага Езуса, які ўжо перамог яе, і ці верыш у Яго? "Атрымліваюць апраўданне дарма, паводле Ягонай ласкі, праз адкупленне ў Езусе Хрысце. Яго ўстанавіў Бог як уміласціўленне ў Ягонай крыві праз веру" (Рым 3, 24–25). Толькі Той, хто ёсць Уваскрасеннем, мае сілу ажывіць усё, да чаго дакранецца.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***4 красавіка – Нядзеля Уваскрасення Пана***
***Ян 20, 1–9***

У першы дзень тыдня Марыя Магдалена прыйшла да магілы раніцай, калі было яшчэ цёмна, і ўбачыла, што камень адсунуты ад магілы. І пабегла, і прыбыла да Сымона Пятра і да другога вучня, якога любіў Езус, і сказала ім: "Забралі Пана з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго". Тады выйшаў Пётр і другі вучань, і пайшлі да магілы. Пабеглі абодва разам. І другі вучань пабег наперадзе хутчэй за Пятра і прыбыў да магілы першы. Заглянуўшы, убачыў, што ляжаць палотны, аднак не ўвайшоў. Тады прыйшоў за ім Сымон Пётр і ўвайшоў у магілу, і ўбачыў палотны, якія там ляжалі, і хусту, якая была на галаве Ягонай, не з палотнамі яна ляжала, а асобна, скручаная на іншым месцы. Тады ўвайшоў і той другі вучань, што прыбег першы да магілы, і ўбачыў, і паверыў. Бо яны яшчэ не ведалі Пісання, што трэба было Яму ўваскрэснуць з мёртвых.

### Верай трэба дзяліцца

*Адкрыццё пустой магілы – адна з найпрыгажэйшых сцэн, апісаных у Евангеллі. Гэта дае тым, хто верыць у Хрыста, надзею, што іх магілы таксама калі-небудзь стануць пустымі.*

*Пустая магіла, якую знайшла Марыя Магдалена раніцай, стала для яе вялікай нечаканасцю. Таму пабегла да Сымона Пятра і другога вучня, плачучы, што забралі Пана і невядома, дзе Яго паклалі.*

*У жыцці сустракаецца шмат сітуацый, сэнс якіх мы разумеем не адразу. Інтэрпрэтуючы іх занадта паспешна і без дапамогі іншых, можам зрабіць няправільныя высновы. Асабліва ў духоўным жыцці нам патрэбны людзі, якія дапамогуць выявіць сляды прысутнасці Бога ў нашай паўсядзённасці. Марыя Магдалена, стоячы ля пустой магілы, яшчэ не разумела, што там адбылося. Патрабавала дапамогі апосталаў, каб зразумець і перажыць гэта.*

*Пустая магіла дае нам усім надзею, што калі Хрыстос перамог моц граху і смерці, мы таксама будзем вызвалены ад іх.*

*Свята Уваскрасення Пана з'яўляецца самым важным днём з усіх дзён года. Яно адкрывае нас на перспектыву вечнага жыцця і пацвярджае, што Пан Езус – сапраўдны Збаўца. Магчыма, варта ў гэты час пагаварыць з блізкімі пра веру. Так часта ў пытаннях рэлігіі мы закрываемся ў сабе, сцвярджаючы, што вера – наша прыватная справа.*

*Паспрабуем так, як Марыя Магдалена, запрасіць наведаць "пустую магілу" тых, каго сустракаем на сваім жыццёвым шляху. Няхай увойдуць з намі, каб паверылі, як вучні Пана, што Хрыстос уваскрос.*

*Пане Езу, дазволь мне спачатку самому паверыць у Тваё ўваскрасенне, а потым прывесці да "пустой магілы" іншых.*

***11 красавіка – II Велікодная нядзеля, ці Божай міласэрнасці***
***Ян 20, 19–31***

Калі быў вечар таго першага дня тыдня, і дзверы дома, дзе збіраліся вучні, былі замкнёныя ад страху перад юдэямі, прыйшоў Езус і стаў пасярэдзіне, і сказаў ім: "Спакой вам!". І, сказаўшы гэта, паказаў ім рукі і бок. Узрадаваліся вучні, убачыўшы Пана. Тады Езус зноў сказаў ім: "Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і я пасылаю вас". І, сказаўшы гэта, дыхнуў, і кажа: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца". Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: "Мы бачылі Пана". Але ён сказаў ім: "Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не павеpу". І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: "Спакой вам!". Потым кажа Тамашу: "Дай сюды палец твой і пагледзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым". Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: "Пан мой і Бог мой!". Езус кажа яму: "Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў".

Шмат іншых цудаў, пра якія не напісана ў гэтай кнізе, учыніў Езус перад вучнямі сваімі. Гэтае ж напісана, каб вы паверылі, што Езус ёсць Месія, Сын Божы, і каб, веруючы, вы мелі жыццё ў імя Ягонае.

### Прабачэння трэба хацець

*Прабітыя рукі, ногі і сэрца Езуса сведчаць пра тое, як моцна Бог палюбіў свет. Настолькі, што ў гэта цяжка паверыць. Нам, якія вельмі часта перажываюць пакуты, якія расчараваны ў сваёй любові, якіх, магчыма, часта адштурхоўвалі, якія пераканаyы ў сваёй грэшнасці, цяжка верыць, што ёсць Хтосьці, Чыёй любові не трэба шукаць. Хто здольны любіць нас самааддана, прымаючы цалкам.*

*Тамаш, які не быў з апосталамі ў вячэрніку, калі сярод іх з'явіўся Хрыстос, таксама не паверыў. Аднак ён сумняваўся не ў Божай міласэрнасці, а ў тым, што Яго Майстар і Настаўнік увогуле жывы. Толькі сустрэча з Уваскрослым прывяла яго да веры. Сакрамант пакаяння і паяднання дазваляе такую сустрэчу. Нават самы вялікі грэх можна дараваць. Умова, аднак, заключаецца ў тым, што гэтага Божага прабачэння трэба хацець, што ў Міласэрнасць трэба верыць.*

*У Езусе Хрысце наша надзея: на вылячэнне ран, на выпрастанне звілістых шляхоў жыцця, на наша ўваскрашэнне.*

*Пане Езу, учыні, каб я паверыў у Тваю моц і каб да мяне адносіліся словы: "Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў".*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму*** *жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, цярплівасці, душэўнага супакою і патрэбных Божых ласкаў.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму*** *жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, імкнення Божай дарогай да святасці і толькі радасных хвілін. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.*

*Любячая сям'я*

***Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму*** *з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем, каб кожны Ваш дзень быў шчаслівы, здароўе не слабела, вера з кожнай хвілінай узмацнялася, а з твару не сыходзіла ўсмешка.*
*З нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем таксама шчодрых Божых ласкаў і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

***Шаноўнай Арганістцы Тэрэзе*** *жадаем моцнага здароўя, шчасця, Божай апекі і благаслаўлення. Сардэчна дзякуем за сціпласць, працу ў касцёле, прыгожы спеў і малітву.*

*Вернікі з в. Плоскаўцы і парафіяне кацёла ў Селіванаўцах*

***Паважанаму Айцу Вітольду Пяцельчыцу*** *жадаем мноства радасці, здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас мацярынскай любоўю і апекай, выпрошваючы ў свайго Сына неабходныя ласкі для Вас.*

*Вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету*** *жадаем, каб Анёл-ахоўнік заўсёды быў побач, Пан Бог адорваў супакоем і ўсім, чаго патрабуе сэрца, а Маці Божая ахінала сваім плашчом.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету*** *жадаем Божага благаслаўлення, патрэбных ласкаў і апекі Маці Божай. Няхай добры Бог заўсёды будзе Вашым Сябрам.*

*Парафіяне з Адамавічаў*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

***Паважанаму Ксяндзу Рычарду Пэрчаку*** *жадаем мноства Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай і святога заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень праходзіць у супакоі і шчасці, а навокал будуць добрыя і зычлівыя людзі.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Дзітвы*

***Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму*** *жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця і непахіснай надзеі. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая і святы заступнік нястомна апекуюцца.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Канвелішкаў*

### ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ДНЯ СВЯТАРА І ВЕЛІКОДНЫХ СВЯТ

***Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму*** *жадаем, каб уваскрослы Хрыстос напаўняў Ваша жыццё святлом ды любоўю і суправаджаў на цудоўным святарскім шляху.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

***Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю і ўсім Святарам Гродзенскай дыяцэзіі*** *жадаем, каб радасць Уваскрасення напаўняла Вашы сэрцы супакоем і любоўю. Шчыра дзякуем за паслугу на карысць Богу і людзям, абвяшчэнне Божага слова і клопат пра кожнага чалавека.*

*Парафіяне з Крупава*

***Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, а таксама Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму*** *жадаю, каб Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляў Вас на святарскім шляху, а Маці Божая абараняла мацярынскай любоўю і ахінала сваёй апекай.*

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чысцовым Душам*

***Паважаным Ксяндзам Віктару Захарэўскаму, Паўлу Звяжынскаму і Здзіславу Пікулу*** *жадаем, каб святло ўваскрослага Хрыста апраменьвала Ваша святарскае жыццё, Святы Дух удзяляў свае дары, а Найсвяцейшая Маці з любоўю чувала над Вамі. Жадаем добрага здароўя на доўгія гады жыцця і зычлівых людзей побач.*

*Парафіяне з Варнянаў і Вароны*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, непахіснай веры, рэалізацыі ўсіх планаў і шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста.*

*Колы Жывога Ружанца з Зэльвы*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу*** *жадаем моцнага здароўя і благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста. Стойка і ўпэўнена ідзіце па выбраным жыццёвым шляху, служачы Богу і людзям.*

*Парафіяне з в. Рэпля, вул. Усходняя*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану жадаем*** *моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых Божых ласкаў і добразычлівых парафіян. Няхай уваскрослы Езус благаслаўляе Вас, Маці Божая апекуецца, а Святы Дух асвячае святарскі шлях.*

*Ружанцовае Кола НПМ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

***Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай у час Вялікай Ночы, калі няма змроку і цемры, у Вашым сэрцы гучыць рэха радаснага воклiку веры "Алелюя!". І няхай гэтае рэха ніколі не сціхае.*

*Колы Жывога Ружанца і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Астрыны*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу*** *жадаем благаслаўлення ад уваскрослага Хрыста, добрага здароўя на доўгія гады, нязгаснага запалу ў паслузе, стойкасці, душэўнага супакою і шчодрага плёну на ніве Пана.*

*Вернікі з в. Гінэлі парафіі Нача*

***Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне*** *жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, спакойных дзён, каб кожная хвіліна была сонечнай, радаснай і шчаслівай.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здзіславу Пікулу, Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму, Аляксандру Пятровічу, Арцюру Ляшнеўскаму, Сёстрам Наталлі і Караліне*** *жадаем, каб уваскрослы Езус адорваў Вас сваімі ласкамі, здароўем, сілай, стойкасцю і супакоем, Святы Дух удзяляў свае шчодрыя дары, а Маці Божая ахінала цеплынёй свайго сэрца.*

*Парафіяне з Дзятлава*

***Паважананым Айцам Яўгену Голубу, Аляксею Юхневічу, Сяргею Мігуну і Дыякану Віктару Мялешку*** *жадаем моцнага здароўя, сіл на кожны дзень жыцця і паслугі, радасці ў сэрцы, супакою ў душы, а таксама добрых і зычлівых людзей навокал.*

*Рыцарства Беззаганнай і Адарацыйнае кола з францішканскага касцёла*

***Паважаным Ксяндзам Каноніку Юзафу Багдзевічу і Станіславу Краўчанку, а таксама дарагім Сёстрам*** *жадаем душэўнага супакою, шчаслівых дзён, моцнага здароўя, Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Хрыстос, Збаўца свету, адорвае Вас ласкамі, сапраўднай радасцю і шчасцем.*

*Парафіяне касцёла свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану, Паўлу Гардзейчыку і Паўлу Раманоўскаму*** *жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста. Няхай Ваша высакароднае пакліканне прыносіць задавальненне ад выбару такой складанай і адказнай жыццёвай дарогі.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

***Паважаным Ксяндзам Прэлату Антонію Філіпчыку, Віталію Пяткевічу, Тамашу Мікалайчыку і Дзмітрыю Леўчыку, Сёстрам Мірыям, Антаніне, Наталлі і Ліліяне*** *жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста, моцнага здароўя і мноства сіл на кожны дзень.*

*Парафіяне, Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу*** *жадаем моцнага здароўя, аптымізму, штодзённай радасці, зычлівых людзей побач, а таксама Божай апекі і дароў Святога Духа.*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб дарога, якую выбралі, была шчаслівай і добрай, каб Вы маглі шчыра служыць Богу і людзям.*

*Ружанцовыя колы і апостальства "Маргарытка" касцёла св. Уладзіслава ў Суботніках*

***Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму і Валерыю Шэйгерэвічу*** *жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою і шчодрага плёну ў святарскай паслузе. Няхай на Вашай жыццёвай дарозе заўсёды гарыць агонь веры і надзеі.*

*Вернікі парафіі св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму*** *жадаем Божага благаслаўлення, здароўя, нястомнасці ў душпастырскай паслузе і апекі Маці Божай. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Божая Маці заўсёды ва ўсім дапамагае.*

*Вернікі з в. Малінавая*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Гавецкаму і Дзянісу Бразінскаму*** *складаем сардэчныя віншаванні. Ойча Нябесны, Тваёй апецы давяраем нашых святароў, якія падаюць хлеб Божага слова і хлеб Эўхарыстычны. Дай ім сілу для працы і айцоўскае сэрца, каб мы праз іх паслугі маглі дайсці да вечнага збаўлення.*

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

***Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу*** *жадаем шмат радасці ў святарскай паслузе, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем, радасцю і цярплівасцю.*

*Парафіяне*

***Дарагому Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу*** *жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, радасці, аптымізму, дароў Святога Духа і моцнай веры. Няхай Езус, які аддаў сваё жыццё на крыжы, дапамагае Табе ва ўсіх справах.*

*Мама і тата*

***Паважаным Ксяндзам Паўлу Раманоўскаму і Паўлу Паўлюкевічу*** *жадаем, каб уваскрослы Хрыстос дапамагаў Вам у паслузе і адорваў здароўем, а Маці Божая ахінала сваёй любоўю і апекай. Нахай Вашы сэрцы заўсёды будуць напоўнены спакоем і радасцю.*

*Вернікі парафіі Граўжышкі*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму*** *жадаем, каб добры Бог нястомна спасылаў на Вас свае дары, Святы Дух дадаваў моцы і падтрымліваў на святарскім шляху, а Марыя вяла дарогай святасці, асветленай промнямі Божай любові і міласэрнасці.*

*Ружанцовыя колы і парафіяне касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

***Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму*** *жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас радасцю, напоўніў надзеяй, верай і супакоем.*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, стойкасці ў пакліканні і шчодрага плёну ва ўсіх справах.*

*Парафіяне з Забалаці*

***Паважаным Ксяндзам Міхалу Ластоўскаму і Артуру Малафею*** *жадаем, каб праз ласку міласэрнага Бога Вы ніколі не мелі стомы, былі адораны моцным здароўем, нязгаснай энергіяй і дасканаласцю ў святарскай паслузе. Няхай дары Святога Духа і апека Панны Марыі будуць для Вас жыватворнай крыніцай.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

***Паважаным Айцам Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану і Змітру Чарнелю*** *жадаем, каб уваскрослы Хрыстос адарыў Вас радасцю і спакоем, а ў сэрцы ўліў веру, надзею і любоў. Няхай Яго святло асвеціць усякую цемру і дадасць сіл для выканання волі Пана.*

*Францішканскі ордэн свецкіх, апостальства "Маргарытка" і вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, сталай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля словам і жыццём.*

*Парафіяне з в. Старое Сяло*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ясевічу і ўсім Святарам дэканата Вялікая Бераставіца*** *жадаем моцнага здароўя і Божага благаслаўлення. Няхай Хрыстос – уваскрослы Збаўца свету – адорыць Вас сваімі ласкамі, радасцю і спакоем.*

*Францішканскі ордэн свецкіх, а таксама Касцёльны камітэт і парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Станіславу Пацыну, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Аляксадру Вараб'ёву, Андрэю Радзевічу, Паўлу Беланосу і Яну Раманоўскаму*** *жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў святарскай паслузе, патрэбных ласкаў ад уваскрослага Хрыста і апекі Маці Божай.*

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Радуні*

***Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю*** *жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас здароўем, спакоем, мудрасцю, а Маці Божая вяла найпрыгажэйшым шляхам да Пана. Сардэчна дзякуем за ахвярную службу Богу і людзям.*

*Ружанцовыя колы і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крупава*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу*** *жадаем, каб найвышэйшы Бог ахінаў Вас сваёй міласэрнасцю і адорваў ласкамі, Святы Дух асвячаў кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці нястомна Вамі апекавалася.*

*Вернікі парафіі Божай міласэрнасці ў Доцішках*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы*** *жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, супакою, сіл і дабрыні ад зычлівых людзей.*
***Ксяндзу Пробашчу*** *з нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб усе планы здзяйсняліся з Божай дапамогай, а служба на ніве Пана была доўгай.*

*Касцёльны камітэт, першакамунійныя дзеці з бацькамі і парафіяне касцёла Хрыста Валадара і МБ Фацімскай у Жамыслаўлі*

***Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Зоф'і і Сабіне*** *жадаем моцнага здароўя, сіл і зычлівасці ад парафіян. Шчыра дзякуем Вам за клопат і дабрыню.*
***Ксяндзу Віктару*** *з нагоды дня нараджэння жадаем таксама Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Сурвілішках*

***Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу*** *жадаем шчодрых Божых ласкаў і апекі Панны Марыі. Няхай Бог благаслаўляе Цябе і аберагае!*
*З нагоды дня нараджэння жадаем таксама здароўя, добрых парафіян і стойкасці на ніве Пана.*

*Мама Антаніна, брат Дзмітрый, брат Генрых з сям'ёй*

***Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу*** *жадаем, каб усемагутны Бог адорваў Цябе патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая нястомна апекавалася. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, сілы – бясконцымі, а сэрца – добрым і адкрытым на Бога і людзей.*

*Бацькі, брат і сёстры разам з сем'ямі*

***Паважаным Айцам Пробашчу Аляксандру Махначу, Вітольду Пяцельчыцу, Брату Віктару і ўсім Айцам Піярам*** *жадаем моцнага здароўя, плённай душпастырскай паслугі, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай Хрыстос адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух вядзе праз жыццё.*

*Вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны*

***Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Гавецкаму, Дзянісу Бразінскаму, Артуру Валчкевічу, Віталію Цыбульскаму і Алегу Яновічу, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і*** *жадаем плённай працы на Божай ніве. Няхай добры Бог вядзе Вас прамымі сцежкамі, Святы Дух асвячае дарогу, а Марыя адорвае цяплом свайго сэрца.*
***Ксяндзу Пробашчу*** *з нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб у жыцці было больш святла, любові, чалавечага цяпла і ўзаемаразумення.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла і Іўі*

***Паважаным Ксяндзу Пробашчу Віктару Велівісу і Сястры Паўліне, а таксама Святарам, якія працавалі ў нашай парафіі,*** *жадаем, каб уваскрослы Езус адорваў Вас моцным здароўем, Найсвяцейшая Маці ахінала сваёй апекай, а Святы Дух быў шчодры на свае дары. Няхай кожны дзень прыносіць радасць і добры плён.*

*Парафіяне касцёла св. Роха ў Грандзічах*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВАЛЕРЫЮ ОРСІКУ, ЯГО МАМЕ І СЯСТРЫ**
ў сувязі з адыходам да дому Пана бацькі і мужа Казіміра перасылаем словы спачування і жалю, спалучаныя з малітвай. Вечны адпачынак дай яму, Пане!

*Сям'я Радзевіч з Бярозаўкі*

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1158; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.